# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 37 (707) 14 ВЕРАСНЯ 1969 г. ЦАНА 60 гр.

## СПРАВЫ БЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ

Нягледзячы на перыяд летніх водпускаў і адпачынку ад бюровых заняткаў — у паветах працягваецца інтэнсіўная праца над рэарганізацыяй метадаў кіравання гаспадаркай згодна з пастановамі II пленума партыі.

У Бельску-Падляшскім яшчэ ў чэрвені адбылася ў гэтай справе нарада кіраўнікоў паасобных гаспадарчых прадпрыемстваў, сакратароў партыйных арганізацый, старшынь радаў рабочых калектываў. На гэтай нарадзе паінфармавана прысутных аб істоце пастаноў II пленума і акрэслена заданні на бліжэйшы перыяд. Адначасова адбыўся семінар для лектараў прысвечаны гэтай праблеме. Разыходзілася пра тое, каб падрыхтаваць лектараў да папулярызацыі пастаноў II пленума.

Пачаліся сходы ў паасобных прадпрыемствах. Іх змест быў аднак для рабочых калектываў нечаканасцю. Нягледзячы на тое, што пастановы II пленума былі публікаваны ў друку, рабочыя, а ў тым ліку і члены партыі, не былі падрыхтаваны да дыскусіі над імі. Таму дыскусія не была надта актыўнай. Тым не менш на сходах выявілася вялікае зацікаўленне праблемамі пленума, а асабліва праблемамі нізавой апрацоўкі гаспадарчага плана і паляпшэння інвестыцыйных працэсаў.

Павятовы камітэт партыі ў Бельску вызначыў 41 прадпрыемства, да якіх маюць прымяненне пастановы пленума. Многія з іх апрацавалі падрабязныя, канкрэтныя планы забеспячэння гэтых пастаноў. У некаторых аднак усё кончылася толькі напісаннем у Павятовы камітэт партыі некалькіх да нічога не забавязваючых агульных фармулёвак. Яшчэ іншыя прадпрыемствы не ведаюць, як забрацца да парадкавання свае гаспадаркі і чакаюць на падрабязныя ўказанні ад наглядальных гаспадарчых адзінак. Датычыць гэта перш за ўсё гмінных спулдзельняў і транспартных баз.

Найлепш рэалізацыя пастаноў II пленума праводзіцца ў Бельскай рашарні. Праведзена тут падрабязны аналіз прадукцыйных здольнасцей прадпрыемства. Праведзена таксама аналіз прадукцыйнасці працы і выкарыстання часу працы паасобнымі рабочымі. Словам

Працяг на стар. 4



## Свята ўраджаю

31 жніўня г.г. у Беластоку адбыліся ваяводскія дажынкі. Гэта было сапраўднае свята ўраджаю. Удзельнічала ў ім звыш 15 тысяч перадавых прадстаўнікоў беластоцкай вёскі.

На верхнім здымку вы бачыце гаспадара дажынак, І-га сакратара ВК ПАРП А. Лашэвіча, які са старасцінай дажынак Янінай Буйноўскай нясе буханак хлеба з сёлеташняга ўраджаю. На ніжнім здымку галоўны вянок.

ФОТА ЦАФ — СЯНЬКО



Чэрць стагоддзя назад




**Аўтар запісак Іван Андрэевіч Колас у гады Вялікай Айчыннай вайны быў ваенным разведчыкам. Разам з баявымі таварышамі ён некалькі разоў закідваўся праз лінію фронту ў тыл ворага, дзе выконваў спецыяльнае заданне камандвання. Камсамолец Іван Колас узначальваў партызанскі атрад, а ў дваццаць адзін год быў ужо камандзірам партызанскай брыгады.**

**Многа разоў у гады вайны адважнаму разведчыку даводзілася выконваць розныя заданні. Ноччу 21 верасня 1944 года капітан Іван Колас і радыст сяржант Дзмітрый Сцянько былі выкінуты на парашутах над паўстаўшай Варшавай. Ім было даручана ўстанавіць сувязь з атрадамі Арміі Людовай, разведаць групу войск праціўніка ў Варшаве. З рызыкай для жыцця яны выканалі і гэта баявое заданне.**

**Цяпер Іван Андрэевіч Колас жыве і працуе ў Маскве.**

**У запісках прозвішчы некаторых герояў зменены.**

«Сёння ў нас вялікі дзень. Доўга нашы войскі рыхтаваліся і вось цяпер рушылі наперад. Вы, напэўна, ужо ведаеце аб гэтым з газет. Калі поспех будзе развіты і далей, то ўсю Польшчу ўдасца вызваліць у некалькі тыдняў. Блізкі канец вайны!»

Гэта пісьмо родным я напісаў 23 ліпеня 1944 года, а да першага жніўня пасля зацяжных і ўпартых баёў нашы часці сумесна з Войскам Польскім выйшлі на бераг Віслы якраз ля Варшавы.

У самой Варшаве чутна беспарадкавая пальба. Яна не спынялася ні днём, ні ноччу. Гарэлі будынкі. Над горадам кружылі нямецкія самалёты.

Што ж адбываецца ў Варшаве? Па адрывачных звестках стала вядома, што там пачалося паўстанне. Незразумела было адно: арганізатары паўстання не ўзгоднілі час свайго выступлення са стратэгічнымі планамі Чырвонай Арміі і Войска Польскага. Чаму так?

Наша камандванне пачало дастаўляць паўстанцам па паветры боепрыпасы, зброю, медыкаменты і прадукты харчавання. Адначасова, каб высветліць абстаноўку, была закінута ў Варшаву група нашых ваенных разведчыкаў. Гэта група бясследна знікла. Не адгукнулася і другая, пасланая ў палаючы горад.

Тады ў штаб 1-га Беларускага фронту тэрмінова быў выкліканы я. Прынялі мяне член Ваеннага савета генерал-лейтэнант Цялегін і камандуючы фронтам Маршал Ракасоўскі.

— Мне ўжо дакладвалі пра вас, таварыш Колас, — загаварыў Ракасоўскі. — Сядайце...

Я сеў.

— Вы, напэўна, ужо чыталі аб тым, што ў Варшаве пачалося паўстанне?

— Чытаў, таварыш камандуючы.

— Дык вось... — Ракасоўскі таксама апусціўся на крэсла і пачаў тлумачыць, якое адказнае заданне даручаецца мне.

Заўтра я павінен дэсантыравацца ў палаючую Варшаву і арганізаваць там разведку — высветліць, колькі сіл у немцаў. Акрамя таго, на мяне падала задача звязацца з камандваннем Арміі Людовай і даведацца, у чым маюць патрэбу паўстанцы.

— З вамі паляціць радыст.

— Усё зразумела, таварыш камандуючы!

Радыст, якога я браў з сабой, быў Дзмітрый Сцянько. Перад вылетам мы слухалі апошні выпуск паведамленняў з фронту, як раптам да дома падкаціў у «эмцы» палкоўнік Бялоў, наш стары знаёмы. Ён не раз праводзіў нас у небяспечную дарогу, і хаця быў сёння вясёлы і многа жартаваў, я чуццём угадваў: непакоіцца. Яно і зразумела: мы ж накіроўваліся туды, адкуль не вярнуліся ўжо дзве групы разведчыкаў.

Праводзіць нас высыпаў на поле ледзь не ўвесь састаў эскадрыллі. Твараў не разгледзіш, ноч. Успыхваюць агеньчыкі папярос. Напаследак усе стараюцца паціснуць маю руку. Не падае рукі толькі Дзмітрый Сцянько. Я таксама ўстрымліваюся: мы ж праз гадзіну—дзве сустрэнемся ў Варшаве.

— Ці сустрэнемся?

— Ну, бывай! — гаворыць ён і ідзе да свайго самалёта.

Працяг на стар. 4

ДЗЕ Ж САМАПОМАЧ СЯЛЯНСКАЯ?

## БЕДЫ ДАБРАБЫТУ

Чалавека цешыць, калі бачыць, што на месцы старога гасцінца будуецца новая дарога, а ў вясковай прыдарожнай хаце іграе радыё, паказвае тэлевізар, гаспадыня парадкуе пакой пры дапамозе пыласоса, у каморы стаіць халадзільнік. Усё гэта разам узятае абазначае палёгку ў жыцці, пахарошвае штодзённы быт. Прыблізна так думаў я вандруючы праз пушчы на Сакольшчыну, у вёскі, дзе яшчэ не так даўно стары «ровар» з ваеннага дэмабілю быў прадметам зайздрасці.

Ад прыбытку галава не баліць... і баліць. Папсаваўся пыласос, папсавалася электрычная брытва, папсаваўся халадзільнік, папсавалася яшчэ штосьці... Каваль са сваім молатам і абцугамі бяссільны тут. Патрэбны лепшыя хірургі, далікатнейшыя. А, дзе яны? У Беластоку, толькі ў Беластоку. У Саколцы няма, у Дуброве няма, у Бельску няма, у Сямяцічах няма іх.

Да Беластока пяцьдзесят — семдзесят — сто кіламетраў ад Грабаркі ці ад Ячна.

Пыласосы, электрычныя брытвы маюць цяпер не толькі начальнікі, якія могуць пагрузіць свой папсаваны халадзільнік у службовую машыну ды заперці ў беластоцкія варштаты «Эльдом». Усё гэта штораз часцей ёсць ужо і пад стрэхамі саламянымі, усё гэта перастае быць люксусам — апрача «вазоў», што ў элегантна простым назоўніцтве абазначае «варшавы», «шкоды» і г.д.

Праўда, фірма «Эльдом», якая займаецца рамонтам цэлай той хатняй машынерыі, можа выслаць свайго спецыяліста нават у далёкую вёску, каб вярнуць да здароўя занядужаўшы цяжкі халадзільнік. Яго праўдзівым возам нельга давезці ў Беласток, а ў лакіраваным «возе» не месціцца, падла! Але, як сцвердзілі самыя шэфы «Эльдома», гэта адно тэарэтычная магчымасць. На практыцы рэдка бывае так, што цяжкое хатняе абсталяванне можна паладзіць на месцы. Заўсёды чагосьці не хопіць: то шрубкі не такія, то рурка іншая, то абцужкі не тыя ўзялі, то гаспадар кепска паведаміў пра тып машыны і спецыяліст узяў з сабою не тое, што трэба. У выніку размова паміж селянінам і спецыялістам канчаецца словамі: найляпей будзе, пане гаспадар, калі вы прывязеце ў Беласток, у нашы варштаты, там-а-там (дыктуе адрас). А гаспадар думае, як тут захаборыць шафёраў грузавых машын, што возяць рабочых на будоўлі, каб захацелі ўзяць лішні багаж... Шафёр тлумачыць: міліцыя прычэпіцца, адкуль узяў я халадзільнік — і, што я скажу? Шафёр возьме, шафёр завязе, шафёр зробіць

Працяг на стар. 4

# ◇ Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі




## ХО ШЫ МІН



**Адыйшоў ад нас сын гераічнага в'етнамскага народа, выдатны дзеяч міжнароднага камуністычнага і нацыянальна-вызваленчага руху, Прэзідэнт Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнама, Старшыня ЦК Партыі працоўных В'етнама Хо Шы Мін.**

**Прэзідэнт Хо Шы Мін усё сваё жыццё прысвяціў адданаму служэнню рэвалюцыі, народу, айчыне. Ён заснаваў Камуністычную партыю Індакітая, заснаваў Нацыянальны аб'яднаны фронт і В'етнамскую народную армію, арганізаваў Жнівеньскую рэвалюцыю, прывёў да яе перамогі і стварыў Дэмакратычную Рэспубліку В'етнам.**

**Хо Шы Мін быў увасабленнем барацьбы в'етнамскага народа за свабоду і быў адным з іх: чалавекам з народа, прыяцелем, раздзяляючым са сваім народам у найбольш даслоўным сэнсе імкненні і барацьбу, перамогі і штодзённыя клопаты. Тыя, хто з ім сутыкнуўся, адчуў яго непасрэднасць, скромнасць. Апрануты быў у паўваенную блузу, на нагах легендарныя лапці з самахадовых апонаў, да апошняй хвіліны ўтрымліваў непасрэдны кантакт з воінамі, тэрэновымі дзеячамі, з простымі людзьмі.**

**«На працягу 50 з лішнім гадоў імя, выдатныя асабістыя якасці і рэвалюцыйны дух прэзідэнта Хо Шы Міна былі цесна звязаны з барацьбой в'етнамскага народа», — гаворыцца ў камюніке аб смерці тав. Хо Шы Міна.**

**«Імя і дух вялікага прэзідэнта Хо Шы Міна будзе вечна жыць у нашых сэрцах! Яго рэвалюцыйная справа будзе несумненна прадоўжана і даведзена да поўнай перамогі», — гаворыцца ў заключэнні камюніке.**

**Хо Шы Мін памёр ва ўзросце 79 гадоў 3 верасня 1969 г. у выніку раптоўнага цяжкага сардэчнага прыступу.**

### ЧЭХАСЛАВАКІІ

На працягу трох дзён знаходзілася ў Мінску група работнікаў пасольства Чэхаславакіі ў Маскве. Яны наведалі рэспубліку ў сувязі са святкаваннямі 25-годдзя Славацкага нацыянальнага паўстання.

Дарадчык — пасланнік Йозеф Кафка нанёс візіт міністру замежных спраў Беларускай ССР А. Гурыновічу.

Увечары 26 жніўня пасольства Чэхаславакіі ў Маскве наладзіла ў беларускай сталіцы прыём у сувязі з 25-годдзем Славацкага нацыянальнага паўстання. На прыёме прысутнічалі сакратар Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі У. Міцкевіч, першы намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР У. Лабанок, намеснік старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР І. Клімаў, начальнік палітычнага ўпраўлення Беларускай ваеннай акругі генерал-палкоўнік У. Грэкаў, міністр замежных спраў А. Гурыновіч, былыя ўдзельнікі славацкага паўстання, ветэраны партызанскага руху ў Беларусі, прадстаўнікі беларускага грамадства.

### МІНСКАГА

Адбыўся IX пленум Мінскага абласнога камітэта партыі. Абмеркавана пытанні: «Аб рабоце абласной партыйнай арганізацыі ў святле патрабаванняў XXIII з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза з кіруючымі кадрамі», «Аб стане і мерах паляпшэння партыйна-палітычнай інфармацыі ў вобласці».

### «МЕЛІЯРМАШЫН»

Канатна-скрэперавая ўстаноўка, запраектаваная Мінскім «Меліярмашын» можа не толькі ачышчаць ад наносаў і расліннасці саджалкі шасціметровай глыбіні, але і паглыбляць рэчышчы рэк. Яна перамяшчае за гадзіну 67 кубаметраў грунту.

### КАТЛЯРЭЎСКАГА

Савет Міністраў Беларускай ССР стварыў камісію па правядзенню 200-годдзя з дня нараджэння выдатнага пісьменніка, заснавальніка ўкраінскай класічнай літаратуры — Івана Катлярэўскага. У камісію ўваходзяць: П. Глебка, П. Панчанка, Ю. Міхневіч, Г. Анціпаў, А. Бажко, А. Бараноўскі, М. Дзялец, Т. Дзімітрыева, І. Квашніна, П. Кавалёў, Р. Канавалаў, А. Куляшоў, А. Макаёнак, М. Танк, А. Савіцкі, У. Стэльмах, Т. Хадкевіч.

### ГДР

У Віцебску адбыўся агульнагарадскі вечар, прысвечаны сустрэчы з нямецкай партыйнай дэлегацыяй акругі Франкфурт-на-Одры. З прамовай выступіў кіраўнік дэлегацыі, член Палітбюро нямецкай партыі і першы сакратар акруговага камітэта ў Франкфурце — Эрых Мюкенбэргер.

### ЦАЦАК

У многіх краінах свету спадабаліся дзецям цацкі, зробленыя рукамі мінскіх умельцаў. На Лейпцыгскі асенні кірмаш, які прысвячаецца 20-годдзю Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, будзе выслана пяцьдзесят розных цацак, зробленых у Беларусі. (ся)

### З ДАКЛАДА УЛАДЗІСЛАВА ГАМУЛКІ НА ЦЭНТРАЛЬНЫХ ДАЖЫНКАХ У ВАРШАВЕ

У сувязі з неспрыяючымі атмасферычнымі ўмовамі для сельскай гаспадаркі дзяржава ідзе з дапамогай. Заспакояцца ўсе патрэбы гаспадаркі ў штучныя ўгнаенні. Можна іх будзе купіць па абніжанай цане яшчэ на працягу верасня. На 1970 год прыпадзе ў нас у чыстым складзе 135 кг угнаенняў на адзін гектар, значыць на 20 працэнтаў больш, чым у мінаючым годзе. Больш будзе таксама сродкаў аховы раслін, больш будзе лепшых, інтэнсіўных гатункаў збожжа.

Урад пастанавіў адкласці сплату крэдытаў усім гаспадарам, якія маюць цяжкасці ў сувязі з пасухай. Могуць яны браць новыя крэдыты асабліва на ўгнаенні.

Важным цяпер абавязкам сельгасгурткоў — гэта запэўніць як найлепшую эксплуатацыю машын. У далейшым дбаць трэба пра павелічэнне ўраджаяў — збожжа і паш.

У гэтым годзе было закантрактавана 1,7 мільёнаў гектараў збожжа. На 1970 год трэба закантрактаваць 2 мільёны га. У гэтым годзе ў сувязі з цяжкасцямі ў пашы, дзяржава прыдзе з дадатковай дапамогай. Устрыманы будзе продаж за граніцу некаторых паш, адначасова больш купіцца за граніцай канцэнтратаў. Гаспадарка атрымае на паўмільёна тон пашы больш, чым у мінулым годзе. Дапамога пойдзе найперш туды, дзе была найбольшая пасуха.

Заклікаецца гаспадароў да сеяння зялёнак, якія вырастуць і будуць добрай падтрымкай гаспадарам.

Цяпер важная справа, каб як найменш было страт у перахоўванні бульбы. Трэба шырока прымяняць параванне, кішэнне і сушэнне бульбы. Трэба зрабіць усё, каб не дапусціць да зніжэння гадоўлі быдла і свіней.

Ад 1.I.1970 года цэны скупу свіней будуць павышаны ад 70 гр да 1,10 зл за кілаграм жывой вагі.

Разглядаюцца і апрацоўваюцца метады паляпшэння ўмоў кантрактацыі жывога быдла. Будуць прыменены ільготы ў зямельных налогах тым, якія больш закантрактуюць.

Сельгасгурткі з фонду развіцця сельскай гаспадаркі выдадуць 4 мільярды злотых. На новых 270 тысячах гектараў будзе праведзена меліярацыя. На будаўніцтва ў сельскай гаспадарцы пойдзе 26,5 мільярдаў дзяржаўных злотых. Лічыцца, што ўласныя сродкі гаспадароў асягнуць суму 16 мільярдаў зл. Вёска атрымае больш будаўляных матэрыялаў розных гатункаў.

### ВЫСОКІЯ АДЗНАЧЭННІ ГАСПАДАРАМ

Некалькі дзесяткаў перадавых гаспадароў з усяе краіны спаткалася пасля поўдня ў дзень дажынак у Бельведары з найвышэйшымі партыйнымі і дзяржаўнымі ўладамі. 80 асоб з рук Уладзіслава Гамулкі, Мар'яна Спыхальскага, Юзэфа Цыранкевіча і Чэслава Выцэха атрымалі высокія дзяржаўныя адзначэнні, у тым ліку 5 асоб з Беласточчыны. (вл)

### НОВАЯ СПЕЦЫЯЛІЗАЦЫЯ

Ад 1 кастрычніка г.г. пакліканы пры Беластоцкай Вышэйшай інжынерскай школе завочны інжынерскі курс. Курс будзе дзейнічаць пры механічным факультэце. Спецыяльнасць новаадкрытага інжынерскага курса — машыны і сельскагаспадарчыя прылады.

Усе тыя, хто ў гэтым годзе захоча пачаць навуку на завочным курсе ВСІнж., павінны мець закончаны гатовы стаж працы ў прафесіі сельскагаспадарчага механізатара і мець скіраванне і згоду ўстановы, у якой працуе.

Уступныя экзамены адбудуцца 22—24 верасня г.г. Перад гэтым, для лепшай падрыхтоўкі кандыдатаў, ЗМС арганізуе 5-днёвы падрыхтоўчы курс. Заняткі на курсе пачнуцца 15 верасня. Кандыдаты, якія складуць уступныя экзамены па матэматыцы і фізіцы, пачнуць 5-гадовую навуку. Заняткі будуць адбывацца два разы ў месяц у суботы і нядзелі.

### ЧЫНЫ

Адбылося пасяджэнне Ваяводскай камісіі грамадскіх чынаў пры ВК ФАН. На пасяджэнні прааналізавана рэалізацыю грамадскіх чынаў на Беласточчыне ў першым паўгоддзі гэтага года. Вартасць выкананых грамадскіх чынаў асягнула 50 мільёнаў зл.

У галіне грамадскіх чынаў перадавое месца займаюць жыхары Сямяціцкага, Манецкага, Граеўскага, Ломжынскага і Высокамазавецкага паветаў. Меншую актыўнасць выказалі жыхары Дуброўскага, Элцкага, Сакольскага і Сувальскага паветаў.

### БЕЛАРУСКАЯ ПАРТЫЗАНКА Ў ГАСЦЯХ

Нядаўна госцем Беластока была **Лідзія Глухоўская** ўдзельніца партызанскіх баёў на Беласточчыне, якая пражывае ў Старобіне (БССР).

Л. Глухоўская ў 1943 годзе, разам з партызанскім атрадам генерала Капусты, дасталася на Беласточчыну. Глухоўская дзейнічала потым у спецыяльнай групе разведчыкаў «Слава» ў раёне Бельска Падляшскага, Браньска, Лап і Гайнаўкі дастаўляючы шмат цэнных матэрыялаў Савецкай Арміі.

### У ТЭАТРЫ

Драматычны тэатр імя Ал. Вянгеркі ў Беластоку ўрачыста адкрыў новы тэатральны сезон камедыяй Аляксандра Фрэдры «Пан Ёвяльскі».

### НОВЫ ПРЭЗАС ЛОК

У Беластоку адбыўся V Пленум Ваяводскага праўлення Лігі абароны краіны, прысвечаны спартыўна-абароннай і прапагандовай дзейнасці ЛОК на Беласточчыне.

У часе Пленума дагэтуляшні прэзас Ваяводскага праўлення ЛОК **Эдмунд Шчэпанскі** падаў заяву аб звальненні з пасады ў сувязі з выездам у Варшаву, дзе паклікана яго на дырэктара дэпартамента Камітэта дробнай вытворчасці.

Пленум дакааптаваў да свайго складу намесніка Прэзідыума ВРН **Рамуальда Лазаровіча** і выбраў яго прэзасам ВП ЛОК. А. К.




**Niedziela, 14 września**

8.15 Program dnia; 8.20 „Przypominamy, radzimy"; 8.30 „Stawka większa niż życie" — film TVP; 9.20 Finał indywidualnych Mistrzostw Świata na żużlu. (Londyn); 11.30 „Odbudowa śródmiejskich zabytków Warszawy" („W świecie sztuki"); 12.00 Muzyka z Bratysławy; 12.30 Dziennik; 12.45 „Przemiany"; 13.15 Dla dzieci: H. Januszewska — „Tygrysek" (widowisko Państw. Teatru Lalek „Pleciuga" w Szczecinie); 14.05 „Piórkiem i węglem"; 14.25 „Na jarmarku" — muzyka i tańce wsi podkarpackiej; 15.00 „Chochołowski kronikarz" — rep. film.; 15.30 Sprawozdanie z meczu piłki nożnej Ruch (Chorzów) — Szombierki (Bytom); 17.15 Estrada Literacka; 18.00 PKF; 18.10 „Tele-Echo"; 18.50 „Ojciec i syn" — film; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Podrywacze" — film fab. franc. (od lat 18); 21.20 „Spotkanie z pisarzem" — Stanisław Grochowiak; 21.45 „Klub prof. Tutki" — film TVP; 22.00 Magazyn Sportowy.

**Poniedziałek, 15 września**

15.25 Program dnia; 15.30 i 22.45 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka; 16.35 Dziennik; 16.45 Dla dzieci: „Zwierzyniec"; 17.30 „Echo stadionu"; 17.50 „Bogaty brzeg" — film; 18.05 II Międzynarodowy Festiwal Folkloru Ziem Górskich; 18.45 „Eureka"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 Festiwal Teatrów Dramatycznych: W. Szekspir — „Henryk IV" (transmisja z Teatru Współczesnego w Szczecinie); 21.45 „Muzyka polska w świecie"; 22.25 Dziennik.

**Wtorek, 16 września**

8.30 „Klęski i nadzieje" — film fab. NRD cz. I; 10.00 Dla szkół: (kl. IV) „Na pomoc przyrodzie"; 10.20 Przerwa; 10.55 Dla szkół: (kl. XI i III lic.) Język polski — St. Wyspiański „Wesele"; 11.40 Przerwa; 12.00 „Wybieramy zawód"; 12.20 Przerwa; 12.45 i 15.00 Przysposobienie Rolnicze: „Organizacja Konkursu Uprawowego"; 13.15 Przerwa; 13.55 Program dnia; 14.00 Uroczyste otwarcie Mistrzostw Europy w lekkoatletyce (Ateny); 15.30 i 22.55 Politechnika TV I roku. Matematyka; 16.35 Dziennik; 16.45 „Leśny rezerwat" — film radz.; 17.10 Telewizyjny Ekran Młodych; 18.50 Program publ.; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Klęski i nadzieje" — film fab. NRD cz I; 21.25 Kronika Mistrzostw Europy w lekkoatletyce w Atenach; 22.35 Dziennik.

**Środa, 17 września**

9.55 Dla szkół: (kl. VII) Historia — „Wolność, równość, braterstwo"; 10.30 „Ścigany" — film; 11.20 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. VI) Fizyka — „Miary"; 12.25 Przerwa; 14.25 Program dnia; 14.30 Mistrzostwa Europy w lekkoatletyce (Ateny); 17.45 Dziennik; 17.55 Dla młodych widzów: „Zrób to sam"; 18.15 TV Kurier Warszawski; 18.30 „Czwarta zmiana"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Ścigany" — film; 20.55 „Światowid"; 21.25 PKF; 21.35 „Claudio Monteverdi" („Wielcy twórcy muzyki"); 22.15 Dziennik; 22.30 Program na jutro; 22.35 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka.

**Czwartek, 18 września**

8.15 Matematyka w szkole: „Rozwiązywanie zadań z logiki"; 8.45 Przerwa; 9.55 Dla szkół: (kl. I lic.) Język polski — „Poezja średniowieczna"; 10.25 Przerwa; 10.55 Dla szkół: (kl. VI) Historia — „Dwukrotnie w Toruniu"; 11.25 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. V) Historia — „Państwo nad Nilem"; 12.25 Przerwa; 15.25 Program dnia; 16.45 Dziennik; 16.55 Sprawozdanie z Mistrzostw Europy w lekkoatletyce; 18.55 „Perspektywy techniki"; 19.30 Dobranoc; 19.40 Dziennik; 20.00 „Przypominamy, radzimy"; 20.05 Teatr Sensacji: A. Szypulski — „Niebezpieczne ścieżki" odc. I; 21.10 „Muzyka Średniowiecza"; 22.10 Dziennik; 22.25 Kronika Mistrzostw Europy w lekkoatletyce w Atenach; 22.55 Program na jutro; 15.30 i 22.55 Politechnika TV I roku. Geometria.

**Piątek, 19 września**

9.30 „Dzielnica Szczęście" — film fab. rum.; 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie obywatelskie — „Historia jednego czynu"; 11.25 Przerwa; 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Zajęcia techniczne — „Nowoczesne formy pracy"; 13.15 Przerwa; 14.50 Program dnia; 14.55 i 22.55 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka; 16.00 Mistrzostwa Europy w lekkoatletyce; 17.10 Dziennik; 19.00 TV Kurier Mazowiecki; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Poligon"; 20.35 Teatr TV: J. Millington Synge — „Playboy zachodniego świata"; 21.45 „Rozmowy o książkach"; 22.00 „Refleksje"; 22.30 Dziennik.

**Sobota, 20 września**

10.00 „Orzeł" — film fab. pol.; 11.25 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. VI) Geografia — „Położenie geograficzne Polski"; 12.25 Przerwa; 15.25 Program dnia; 15.30 TV Kurs Rolniczy: „Konserwacja pasz"; 16.05 Program tygodnia; 16.20 „Nowoczesna bajka" — film jug.; 16.35 Dziennik; 16.50 Mistrzostwa Europy w lekkoatletyce; 19.30 Dobranoc; 19.40 „Po prostu żołnierze" — film dokument. pol.; 20.00 „Warszawa Jesień 1969" — koncert otwarcia XIII Międzynarodowego Festiwalu Muzyki Współczesnej; 20.45 Monitor; 21.15 Kabaret Starszego Pana: „Garden Party" czyli „Zabawa w krzakach"; 22.10 Dziennik; 22.30 Sprawozdanie film. z Mistrzostw Świata w podnoszeniu ciężarów; 22.50 „Niebezpieczne miłości" — film fab. wł. (od lat 18).




**Piątek, 12 września**

8.00 Nowiny; 8.15 „Cuda przyrody"; 8.30 „Tobie, młodzieży"; 9.00 Wszechzwiązkowa wystawa twórczości amatorskiej; 14.45 Program dnia; 14.50 Nowiny; 15.00 Dla dzieci; 15.30 „Drogą ojców-bohaterów"; 16.00 „Piewca Ukrainy"; 16.30 Film animowany dla dzieci; 16.40 „Panorama nowin"; 17.00 Film o Leninie; 18.30 „Sztafeta nowin"; 19.15 TV teatr miniatur; 20.15 Komentarz dnia; 20.20 „W jednym szeregu"; 20.45 Koncert; 21.45 Nowiny.

**Sobota, 13 września**

8.00 „Bądźcie szczęśliwi"; 8.30 „Reforma gospodarcza"; 9.00 „Życie tańca"; 10.00 Przegląd międzynarodowy; 10.20 „Szkatułka muzyczna"; 10.30 „Przyjaciel robotnika"; 11.00 Film krótkometrażowy; 11.35 „Białe i czarne"; 12.00 „Wiedza"; 12.30 TV barwna; 14.00 „Zdrowie"; 14.30 Nowiny; 15.00 „Klub wiejski"; 16.00 Koncert życzeń; 17.00 „Gdzie był Lenin"; 17.20 „Droga do domu"; Film fab.; 18.20 Komentarz dnia; 18.30 Nowiny; 18.45 „Leninizm — sztandarem naszej epoki"; 19.15 „Ziomkowie". Film fab.; 20.35 Przedstawienie cyrkowe; 21.15 „Pierwsi szermierze kraju"; 21.45 Nowiny.

**Niedziela, 14 września**

8.00 „Kiosk muzyczny"; 8.30 Nagrody dla architektów; 9.00 Film fab. dla dzieci; 10.10 Dla młodzieży; 11.00 Program poświęcony czołgistom; 11.30 „Centrum Warszawy"; 12.00 „Godzina wiejska"; 13.00 TV barwna; 15.30 O czołgistach; 16.00 TV barwna; 17.00 Piłka nożna. Czechosłowacja — Węgry; 17.50 Komentarz dnia; 18.00 „Przed burzą". TV film fab.; 20.00 „Siedem dni"; 20.45 TV barwna; 21.45 „Tydzień sportowy"; 22.00 Nowiny.

 

Пачатак на стар. 1

# БЕДЫ ДАБРАБЫТУ

ласку. Ой, надакучыла тэтака ласка.

Ага, я забыў яшчэ сказаць, што спецыяліст з «Эльдома» не з'яўляецца зараз жа назаўтра: не пажар, не гарыць. Заказаны спецыяліст з'явіцца праз месяц, два месяцы... А ОРС енчыць усімі рэкламамі: купляйце на сплаты халадзільнікі, пыласосы, а энтузіясты культуры вясковага жыцця задыхаюцца пропаведзямі пра дабрадзейнасць халадзільніка, пыласоса, сціральнай машыны, ашчаднасць часу, мускулаў, карыснасць свежай, непадгніўшай яды — мяса...

Знайшоўшыся далёка ад вясковага гоману, пасярод спакойнага шуму соснаў у Крынскай пушчы, раптам зразумеў я даўно зразуметае ды не ўсвядомленае: людзі лягчэй і хутчэй дбаюць пра распусту чымсьці пра карысныя справы. Крыху неадпаведнае слова «распуста», бо ў даным выпадку датычыць яно тэлевізараў. Іх можна парамантаваць у кожным-кажнюсенькім павятовым мястэчку, а нават і ў местачковых вёсках. Хаця таксама вазні досыць, але не тое, што аж у Беласток

Пытаў я ў Беластоку, чаму такая несправядлівасць на свеце, што «тэлебача» можна паладзіць хутчэй і бліжэй, чым так патрэбную здароўю лядоўню або адпыляча? «Эльдом» прызнаў мне рацыю. Затое ЗУРТ выкруціўся, сказаў, што ён старэйшы ад Эльдома на цэлых пяць гадоў. Вядома, старэйшыя часцей маюць рацыю...

Ды «Эльдом» не думае шукаць апраўдання ў сваёй маладосці, кажа проста: пабудуем свае майстэрні ў Сямяцічах (1971 г.), у Бельску, Саколцы таксама. Словам, да 1975 года падрасцем да патыліцы ЗУРТ-а. Прытым, ВЗГС беластоцкі, цэнтраля гэта наша гаспадарскай самапомачы вясковай, абяцае дапамагчы сабе і нам. Нам, бо нашым абавязкам з'яўляецца рамантаваць, а сабе ВЗГС ды рой ГС-аў паможа тым, што членскія масы паволі перастануць глядзець на ідэю сялянскай самапомачы, як на гандлярскую суполку. Прытым, справа цалкам простая: арганізаваць пры ГС-ах прыёмныя пункты, у якіх сабралася б усе хворыя хатнія машыны. Тады спецыяліст з «Эльдома» за адным замахам лёгка пакалечаныя аздаравіў бы адразу, на месцы, усе тыпы і маркі, а цяжка хворыя адправіў бы самаходам «эльдомаўскім» або «гэсаўскім» у Беласток, потым назад. Прынялі б хворую, выдалі б праз месяц здаровую. Хай нат' і праз два месяцы. Затое без ласкі шафёраў, а шчыра кажучы і без ласкі спецыялістаў, якія ўбачыўшы дабрадушнасць гаспадара таксама патрапяць панаракаць на слабыя заробкі гарадскія, недахоп цяляціны, з вядомым сэнсам...

Закончу свае заўвагі і адчуванні эканамічнай ісцінай: попыт на тэхнічныя паслугі расце надта хутка, падажа іх надта марудна. Думаю, у ГС-ах гэту фармулёўку зразумеюць, бухгалтары ў першую чаргу, і растлумачаць прэзасам — ці то ў Крынках, ці то ў Нараўцы, ці то ў Гарадку... Бо сваёй ідэяй, з якой хлеб ядуць, пераняліся толькі два ГС-ы сялянскай самапомачы: у Бранску і Цеханоўцы. Іншым, відаць, усё рыба!

Хатнюю машынерыю ГС-ы хочуць прадаваць і робяць гэта. Вядома, абы абарот — і да непабачання!

**К. Янкоўскі**

# Справы бельскай гаспадаркі

Пачатак на стар. 1

— праведзена ўсе неабходныя падлікі, каб даведацца, на колькі выкарыстоўваецца прадукцыйная моц машын, сіла і здольнасці рабочых, час працы. Падлікі гэтыя выявілі многа недахопаў у працы прадпрыемства. Так, напрыклад, аказалася, што прадукцыйныя магчымасці турбін і пакулярак выкарыстоўваюцца толькі ў 70 працэнтах. Калі б машыны гэтыя выкарыстаць поўнасцю, можна было б на іх дадаткова перарабляць тысячу тон ільну.

Чаму ж тады не выкарыстаць сілы машын поўнасцю? Справа ў тым, што прадпрыемства зараз не мае магчымасці падрыхтоўкі адпаведна пабольшанай колькасці ільняной саломы для прадукцыі. Актыў прадпрыемства разгледзеў некалькі магчымасцей пашырэння падрыхтоўкі сыравіны. Адной з іх з'яўляецца пабольшанне прадукцыйнай здольнасці існуючых басейнаў, якую асягнуць можна дарогаю скарачэння тэрмінаў падрыхтоўкі ільну, карыстаючыся рознымі хімічнымі дадаткамі да вады і паляпшэннем прыстасавання да падагравання вады. Іншая дарога пабольшання прадукцыі Бельскай рашарні — гэта выкарыстанне метаду натуральнага рашэння, гэта значыць проста рассцілаючы лён на палях. Клопат аднак у тым, што рашарня не мае ў сваім распараджэнні дастатковай колькасці палёў да рассцілання ільну.

Такім чынам праведзеныя ў Бельскай рашарні актывам аналізы могуць стацца істотным дзейнікам у значным пашырэнні прадукцыі прадпрыемства. Падобныя аналізы праведзеныя ў іншых прадпрыемствах Бельска далі не менш абяцаючыя вынікі. Так, напрыклад, у Акруговай млечарскай спулдзельні аказалася, што дарогаю іншага размяшчэння машын цэху і ўвядзення танным коштам некалькіх новых установак можна пабольшыць прадукцыю малочных напіткаў у два разы і значна пашырыць прадукцыю сыраў. Актыў бельска-падляшскага будаўлянага прадпрыемства пераанапізаваў усе магчымасці пабольшання пераробнай моцы ў будаўніцтве. З гэтай мэтай запрапанаваў ён уладам, між іншым, заснаванне ў Бельску Засаднічай прафсаюзнай школы з будаўляным напрамкам, якая рыхтавала б будаўніцтву кваліфікаваную кадру, увядзенне ў шырэйшай ступені двузменнай працы, уладкаванне гаспадаркі гравіем.

Актывізацыя гаспадарчага і палітычнага актыву прадпрыемстваў і яе вынікі сведчаць аб тым, што ў паасобных прадпрыемствах Бельска існуюць вялікія рэзервы далейшага пашырэння іх прадукцыйных здольнасцей.

**Ул. Паўлючук**

Дзе Царава Гара?

# Новыя факты аб Крынках

У сувязі з артыкулам Сакрата Яновіча «Крынкі — ад Крынак», які быў надрукаваны ў «Ніве» ад 17 і 24 жніўня г.г. хачу дадаць ад сябе некалькі інфармацый.

У польскім «Геаграфічным Слоўніку», выд. у 1880 годзе, т. 15, частка II, стар. 177, у артыкуле «Крынкі» напісана:

«— У 1880 г. — 3.740 жыхароў, 898 дзесяцін сялянскіх, 48 царкоўных, 38 касцельных, маёнткі ў часці Раслаўлевых (з фальваркамі Парэчча, Александроўка і Марыяноўка) налічваюць 1.368 дзесяцін, а ў часці Вірыянаў, 741 дзесяціну. Паблізу мястэчка знаходзіцца ўзгорак, званы Царавай Гарою. Праваслаўная парафія дэканата (благачынія) Вяліка-Бераставіцкага, 2.838 душаў, парафіяльная царква і 3 цвінтары. Гміна ахоплівае 35 мясцовасцей, 676 сялянскіх дамоў (побач 322 іншых), 3.997 жыхароў вызваленых сялян на 4.415 дзесяцінах. Апрача таго ў гміне 86 дзесяцін зямлі царкоўнай і касцельнай і 6.280 дзесяцін вялікай уласнасці».

Столькі слоўнік. Да 1939 г. Крынкі знаходзіліся ў Гродзенскім павеце, Беластоцкага ваяводства, а ў 1939—41 гадах з'яўляліся павятовым (раёнавым) горадам, Гродзенскай вобласці. Цяпер яны ў Сакольскім павеце.

Не ўдалося сцвердзіць, каб хто ведаў цяпер, дзе знаходзілася ўспомненая Царава Гара. У тым жа Слоўніку, відаць, мелася на ўвазе тры цвінтары: праваслаўны, каталіцкі і яўрэйскі.

**Еўгень ЖУК**
**Крынкі**
**Сакольскі пав.**

**Ад рэдакцыі:** Зацікаўленне гісторыяй сваёй ваколіцы патрэбнае і карыснае, яно выхаваўчае. Рэдакцыя ахвотна надрукуе пісьмы ад людзей, якія ведаюць новыя факты або легенды.




Назіраючы за працай і актыўнасцю маладога калектыву з вёскі Арэшкава, Гайнаўскага павета, нельга не заўважыць, што адрозніваецца ён ад некаторых іншых вясковых калектываў не толькі формамі працы, але і аднадумнасцю калектыву і перспектыўнай працай. Арэшкаўскія мастакі, усё часцей выязджаюць у розныя мясцовасці з мастацкай часткай, а паколькі маюць уласны аркестр, які назваўся «Фіглярні», разам з мастацкай часткай арганізуюць танцавальныя вечарыны. За такія праграмы ўдзячны жыхары наведваемых вёсак і задаволены самі самадзейнікі. Але?..

Члены калектыву з'яўляюцца членамі БГКТ. Праграма іхняга калектыву ў большасці беларуская. У сувязі з тым апеку над калектывам **ад моманту яго ўтварэння** трымае Гайнаўскі аддзел БГКТ. Але арэшкаўскія самадзейнікі (асабліва дзяўчаты) з'яўляюцца таксама членамі добраахвотніцкай пажарнай каманды. Іх дружына прыймала нават удзел у пажарніцкіх спаборніцтвах. Магчыма, што дзяўчаты належаць таксама да ЗМВ, КГВ, ГС ці іншых арганізацый.

Неяк у нас ужо ўвайшло ў прывычку, што калі арганізацыя, а можа лепш яе члены, не праяўляюць актыўнасці, імі ніхто або амаль ніхто не цікавіцца. А калі што-небудзь пакажуць, пачынаюць іх наведваць прадстаўнікі розных арганізацый, прапанаваць ім сваю апеку і дапамогу, а лічаць за найважнейшае, што маюць права хваліцца ў статыстыках «сваім» калектывам.

Падобнага тыпу недаразумленне мелася нядаўна з арэшкаўскім калектывам. Пабыўшы ў Гайнаўскім павеце прадстаўнік ваяводскага праўлення добраахвотніцкіх пажарных каманд даведаўся аб арэшкаўскім калектыве. У сувязі з тым, што ёсць у Арэшкаве жаночая дружына пажарнікаў, пастанавіў наведаць сарганізаваны калектыў і запрапанаваць ім сваю апеку. Як расказваюць дзяўчаты з калектыву, беластоцкі прадстаўнік абяцаў музычныя інструменты і ўборы. Згодна з расказам арэшкаўскіх дзяўчат, усё будзе добра, гаварыў прадстаўнік, толькі калектыў павінен напісаць прашэнне да беластоцкага праўлення добраахвотніцкіх каманд і... перайсці пад іх апеку. Арэшкаўскія мастакі пастанавілі пакуль што не мяняць апекуна таму, што дагэтуляшні апякун бліжэй і не такі ўжо дрэнны і што музычныя інструменты не надта патрэбныя.

Недаразумленне зводзіцца да таго, што прапануецца маладому калектыву нездаровы гандаль — прыдзіце да нас — дамо. Практыка даказала, што ў такіх заменах распаўся не адзін мастацкі калектыў. Не хачу поўнасцю вінаваціць прадстаўніка пажарнікаў з Беластока. Хачу аднак бараніць пастановы ВК ПАРП у справе перспектывічнага развіцця культуры на Беласточчыне, дзе гаворыцца аб каардынацыі ўсіх арганізацый і ўстаноў звязаных з культурнай дзейнасцю. Напэўна не было б сенсацыі ў Арэшкаве, што пажарная каманда хоча ўзяць пад апеку калектыў, калі б прадстаўнікі ваяводства скантактаваліся з аддзелам культуры, ЗМВ і БГКТ. Справа мелася б інакш. Напрыклад так: пажарная каманда магла б запрапанаваць дапамогу калектыву і даць яе, незалежна ад таго пад чыёй ён апекаю, а калектыў з Арэшкава абавязаўся б абслужваць пажарніцкія мерапрыемствы.

Трэба абавязкова здаць справу ўсім, што апекавацца мастацкімі калектывамі, асабліва на вёсцы, гэта абавязак усіх тут дзейнічаючых арганізацый. У чыёй ён будзе статыстыцы, справа як найменш істотная. А можа, каб у будучыні пазбегнуць такіх недаразумленняў, БГКТ і ОСП падпісалі б супольную ўмову ў справе культурнага супрацоўніцтва на беларускіх вёсках Беласточчыны? Можа з гэтага была б сапраўдная карысць усім?

**А. Лабановіч**




Пачатак на стар. 1

Я іду да свайго. Думаю, зручней размяшчаючыся ў кабіне за спіной пілота: «Можа ўсё-такі трэба было пацісنуць руку Дзмітрыю?»

Загулі маторы нашых «По-2» і вось мы ўжо ляцім. Ляцім над цёмнымі палямі, затым над Прагай — прадмесцем Варшавы, занятым войскамі нашага фронту. Тут мы прад'явілі свой «пашпарт» — зялёную апазнавальную ракету — і пайшлі на рэзкае зніжэнне, пералятаючы Віслу на брыючым палёце. Немцы адразу ж «намацалі» нас пражэктарам, адкрылі страляніну. Трасіруючыя кулі высякалі ў барвовай імгле каляровы пункцір, які адлюстроўваўся ў гладзі ракі. Было непрыемна чуць, як блізка ад вельмі тонкай абшыўкі нашых «утачак» павісквае шрапнель.

Немцы вялі зенітны агонь з усіх варшаўскіх ускраін. Толькі цэнтр горада маўчаў. Акаймаваны вянком гарматных успышак, ён здаваўся глыбокай чорнай ямай. А дыяметр гэтай ямы быў не такі ўжо вялікі.

Я забыўся пра зенiткі. Галоўнае — выскачыць не да немцаў, а да паўстанцаў. Ну, дружа пілот, не падвядзі!

Пілот падняў руку. Гэта мне. Змагаючыся са страшэнным ветрам, я выбраўся на плоскасць. Унізе кварталы, занятыя паўстанцамі, густа дыміліся. Месцамі полымя праглядвала. Вось гэта, напэўна, мост Панятоўскага. А гэта Маршалкоўская.

Не ведаючы толкам навошта, рызыкуючы сарвацца, я скідаю скураныя пальчаткі, падораныя мне палкоўнікам Бяловым, і аддаю іх пілоту. Мяльком — на гадзіннік. 3.10. Выключан матор. Больш чутнымі сталі вецер, выстралы. Дзе Дзмітрый? Прымушаю сябе глядзець уніз. Пілот... Што ж ён марудзіць?

У тую секунду, калі зямля стала невыносна блізкая, калі сцены разбураных шматпавярховых дамоў замільгалі, ледзь не драпаючы фюзеляж, пілот рэзка ўзмахнуў рукой: «Пайшоў!»

Часта ўспамінаю я гэты прыжок, але да гэтага часу не магу пазбавіцца ад уражання, што парашут раскрыўся якраз у той момант, калі прызямліўся, — з такой крытычна малой вышыні я прыгнуў.

Ад моцнага ўдару пацямнела ў вачах...

Калі апрытомнеў, цьмяна адчуў, што яшчэ жывы. Аслабелай правай рукой абмацаў галаву, грудзі. Левая, налітая да самага пляча гарачынёй і цяжарам, наогул не дзейнічала. Я паспрабаваў сагнуць ногі. Яны здранцвелі, але ўсё ж слухаліся. Навокал непраглядная цемра. У цемры нейкія іскры. Няўжо я аслеп?

Не, праясніліся і слых і зрок. Я ляжаў на бітай цэгле, бетоне і шкле. Аднекуль знізу ішоў удушлівы дым. Цягнуся да фінкі. Ну вось, нарэшце! Нялёгка адной рукой сабраць стропы, абрэзаць іх.

Непадалёку пачулася, як абсыпаецца шчэбень. Я выпусціў фінку і схапіўся за гранату. Пачакаўшы крыху, адшпіліў карабіны лямак, дастаў пісталет.

У дыме, дзе невыразна бачны мудрагеліста сагнутыя жалезныя бэлькі, я пачаў распазнаваць нейкія цені. Глуха, невыразна прагучаў чыйсьці голас. Людзі! Яны набліжаліся. Штосьці звякнула, і зноў пасыпалася бітая цэгла. Падаючы кудысьці ўніз, як у бездань яна абуджала гулкае рэха. Дзе ж я? Напружваю вочы так, што выступілі слёзы. Нічога не разумею. Толькі чую:

— Тутай, Стэфан, тутай! Пач — спадохрон!

У мяне адлягло ад сэрца: палякі! Але якія?

— Стой, ні кроку! — хрыпла выкрыкнуў я. Людзі спыніліся.

— Вы рускі?

Не апускаючы пісталета, я зрабіў спробу ўстаць, і тут мяне асляпіў, слізгануўшы, прамень пражэктара. Выбух!

Калі расплюшчыў вочы, побач са мной, шырока раскінуўшы рукі, ляжаў паляк.

Яго адзенне, скручаныя рукі і твар былі пакрыты цагляным пылам.

З'явіліся новыя людзі. Позіркам я знайшоў свой пісталет, але дацягнуцца да яго не мог. Заставаліся нож і граната. Павольна пачаў я падцягваць руку да пояса. Бачу: у двух кроках ад мяне польскі афіцэр.

— Вы рускі? — спытаў ён.

Я хацеў адказаць, але не змог. Моцна быў кантужан.

Не атрымаўшы адказу, ён пацісنуў плячыма, зірнуў на парашут, на барвовае неба.

— Так ёсць, рускі! — пачуўся за яго спіной звонкі голас юнака. — Цікава, Юзэф, як ён сюды трапіў? Можа... з падбітага самалёта?

— Жывы! Дыхае! — узрадаваўся той, якога паручык назваў Юзэфам.

Я прыўзняў галаву. Шэрыя ў ранішнім змроку твары палякаў кранула скупая ўсмешка. Хтосьці дапамог мне ўстаць. Я адчуў боль у левай назе, яна



 

 

Карэспандэнцыя з Балгарыі

# АСВЕТА БАЛГАРЫІ

Балгарыя — гэта не толькі краіна турызму, вінаграду, пшаніцы і руж. Прыязджаючаму сюды турысту з-за мяжы, каб пагрэць цела гарачым сонцам і выкупаць у чорнаморскай вадзе, не заўсёды вядомы дасягненні, аграмадныя дасягненні Балгарыі ў галіне асветы.

Каб пазнаёміцца з некаторымі праблемамі балгарскага школьніцтва дэлегацыя нашых журналістаў была прынята **інж. Любенам Ананіевым** старшынёй Праўлення агульнаадукацыйнага і спецыяльнага школьніцтва Міністэрства асветы БНР (гэта наш адпаведнік віцэ-міністра — арганізацыйная структура міністэрства ў Балгарыі іншая).



Сустрэча ў тэхнічнай школе Сафіі.

У сённяшняй карэспандэнцыі хачу кораценька пазнаёміць з асветнымі праблемамі ў Балгарыі. Аднак перад гэтым напамінаю чытачу, што Балгарыя была вельмі занядбанай краінай у культурнай і асветнай галіне. Больш 500 год турэцкай няволі — гэта толькі ж часу знішчання балгарскай культуры і асветы. Фактычны бурлівы ўзрост асветы вельмі відавочны ў апошніх 25 гадах.

Структура балгарскага школьніцтва падобная як і ў нас. Розніца назіраецца ад сярэдняга школьніцтва. Менавіта маецца тут як бы дзве галіны гэтага школьніцтва: **агульнаадукацыйныя** сярэднія школы, дзе навука працягваецца 3 гады пасля 8 клас пачатковай школы, і сярэднія **спецыяльныя прафесіянальныя** школы, дзе навука працягваецца ад 2 да 4 год у залежнасці ад тыпу школы. Агульнаадукацыйныя сярэднія школы вядуць спецыялізацыю ў двух напрамках т. зв. моўныя — руская, французская, англійская і нямецкая мовы і матэматычныя. Спецыяльныя школы — гэта школы прафесіянальныя. Трохгадовыя сярэднія школы рыхтуюць спецыялістаў для народнай гаспадаркі з сярэдняй адукацыяй. Іншым тыпам прафесіянальнага школьніцтва з'яўляюцца тэхнічныя школы, у якіх навука працягваецца ад 3 1/2 да 4 год у залежнасці ад спецыяльнасці. Ёсць у Балгарыі і 2-хгадовыя прафесіянальныя школы. Пасля іх заканчэння выдатнікі могуць адразу ісці ў сярэднія школы, здаючы экзамены з праграмнай розніцы, а іншыя могуць пачаць працу і давучвацца ў вечаровых тэхнікумах.

Рэформу школьніцтва дыктуюць новыя патрэбы, а не яго дагэтуляшнія памылкі. Балгарскія школы ў мінулым дасканала выконвалі пастаўленыя перад імі задачы, але балгары лічацца з тым, — як сказаў Л. Ананіеў, — што нас акружае і дапасоўваюцца да навукова-тэхнічнай рэвалюцыі. Балгары, выходзячы з прадпасылкі, што людскія веды падвойваюцца кожныя 10 год, лічаць, што сучасны чалавек павінен быць ахоплены адукацыяй ад дзетсада аж да пенсіі. Паколькі людскія веды падвойваюцца, кожныя дзесяць гадоў трэба глыбей задумоўвацца над сярэднім школьніцтвам.

Пакуль што мне дакладна невядомы матэрыялы з Пленума ЦК Балгарскай кампартыі, які нядаўна разглядаў сістэму асветы, але ведаю, што Пленум прыняў пастанову аб увядзенні абавязку сярэдняй адукацыі і што балгарскае школьніцтва ставіць перш за ўсё на фізыкальнае і матэматычнае адукаванне.

У часе маёй пабыўкі таварышы з Міністэрства сцвярджалі, што ў Балгарыі ад нейкага часу ёсць магчымасць, каб усіх дзяцей ахапіць сярэдняй адукацыяй. Каля 90% моладзі ішло ў сярэднія школы. Гэты працэнт, якога не хапае да 100, гэта не недахоп месц у школах, а астаткі мінуўшчыны, пераважна дзеці цыганоў, магаметан і т.п.

У наступнай 5-годцы асветныя ўлады Балгарыі мяркуюць звярнуць асаблівую ўвагу на пабудову інтэрнатаў, а да бліжэйшых мясцовасцей арганізаваць спецыяльны вучнёўскі аўтатранспарт. Планы пяцігодкі прадбачваюць, што большасць школ, у яе канцы, будзе навучацца ў адну змену.

Народная ўлада зрабіла ўсё, каб кожны мог вучыцца сваёй роднай мовы і знаёміцца з роднай культурай. Дзеля гэтага арганізавана школы для нацыянальных меншасцей. Гэтыя школы маюць напалову менш вучняў у класе, а адсюль настаўнік мае больш часу, каб заняцца вучнямі. Фактычна, — гаварыў Л. Ананіеў, — у Балгарыі нацыянальных меншасцей, як такіх, не назіраецца. Тут трэба гаварыць аб балгарах магаметанскага і праваслаўнага веравызнання. Хаця і рэлігійная праблема тут не існуе.

Шмат цікавых спраў ёсць у балгарскім школьніцтве, але, на жаль, не хапае месца, каб іх апісаць.

**А. Карпюк**
фота аўтара



**Нарва.** **Фота Цаф — Сянько**

падламвалася. Левая рука была дзіўна вывернута і распухла. Прыйшлося яе падвязаць. У гэтыя мінуты свядомасць мая працавала неяк асабліва выразна, нягледзячы на шум у галаве і вушах. Я схопліваў усё навакольнае з незвычайнай хуткасцю, толькі вось гаварыць не хацелася. Больш правільна, гэта было цяжка.

Беражліва падтрымліваючы мяне, паўстанцы накіраваліся ўніз па зняверчанай лесвіцы. Юзэф нёс мой шлем, знойдзены ў бітай цэгле, абтрасаў яго, праціраў акуляры.

Мне пашанцавала: упаў, аказваецца, на разбураны паддашак шостага паверха. Ці будзе такі ж удачлівы Дзмітрый?

Калі мы спусціліся на два паверхі ніжэй, Юзэф спыніўся і скрозь дзірку ў сцяне паказаў на суседні будынак. Гэта былі руіны.

— Гітлераўцы! — сказаў Юзэф.

Аб цэглу зашчоўкалі кулі. Давялося крыху перачакаць.

Я выкарыстаў прыпынак і сказаў пра Дзмітрыя Сцянько. Як узрадаваўся Юзэф, калі пачуў рускую гаворку! Да гэтага я ўвесь час маўчаў, і ён пачаў ужо сумнявацца: ці разумею я яго? Юзэф паабяцаў неадкладна накіраваць групу на пошукі другога рускага лётчыка.

Мы, нарэшце, выбраліся на вуліцу і спусціліся ў паўпадвал.

— Тут! — сказаў Юзэф.

Так я трапіў да варшаўскіх паўстанцаў.

**Працяг будзе**




## ГРАБАРКА

На шляху пешахода — Грабарка. На Грабарку, зразумела, няма чаго ісці інакш, як на Спаса. Напярэдадні сёлеташняга Спаса ліў дробны, але густы і пранізлівы дождж. Веяў халодны асенні вецер, сумна шумелі высокія сосны, людзі былі абмоклыя і празяблыя. Людзей было аднак многа. Як штогод з'ехаліся яны ды зышліся з усіх канцоў краіны на гэтую гару пакрытую высокімі соснамі і старой народнай легендай.

Легенда Святой гары жыве надалей сярод народа. Згодна з легендай калісьці, даўным-даўно, мясцовы праваслаўны люд на гары гэтай уцалеў ад страшнай заразы. На гэтым цудоўным месцы ўзнікла цудоўна царква, вырас цудоўны лес, пачаў зыходзіцца народ. Калісьці народ ішоў сюды далёкімі дарогамі пехатою, несучы на плячах тоўстыя, цяжкія драўляныя крыжы. Зараз людзі сталіся больш выгоднымі. Прыязджаюць на Святую гару цягнікамі, аўтобусамі і люксуснымі аўтамашынамі. Не цягнуць ужо крыжоў на стомленых, абалелых плячах. Вязуць іх у партфелях апакаваныя ў элегантную паперу — маленькія драўляныя крыжыкі. Потым вешаюць іх далікатна без шуму на тоўстых соснах росшых вакол царквы.

А як толькі змеркла, грабаркаўскі лес і ўся ваколіца знайшлася ва ўладанні песні. Песні расцяглай, тужлівай, празмерна сентыментальнай, песні — паэмы аб жыцці-быцці чалавечым. Рассеўшыся групамі па некалькі чалавек, ці ў большых грамадах гэтыя незвычайныя спевакі спяваюць да самага рання, над раннем — галасы ахрыплыя і аслабленыя, але песня не ціхне надалей.

Грабаркаўская песня — гэта асаблівы жанр народнага фальклору, найменш мабыць вядомы і найменш даследваны кім-небудзь. У тоўстых сшытках вязуць з сабою сюды сяляне гэтыя не вядома кім і калі складзеныя песні. На Грабарцы гучыць манатонная аднастайная мелодыя, якая так дапасавана да гэтага лесу і начной глушы. Аднастайны пошум лесу, аднастайна хістаўшыеся сосны. Паўдрэмлючыя натоўпы, рассеўшыеся ў лесе між крыжамі, услухоўваюцца ў гэтыя песні-аповесці аб людзях святых, набожных ды аб людзях зусім звычайных, штодзённых. Падсоўваюсь да адной з такіх груп, каб паслухаць гэтых песенных аповесцей.

Спяваюць пра нейкага манаха, які не паверыў у тое, што адзін дзень можа прайсці як тысячу год. Манах той пайшоў у лес і пакуль вярнуўся, у звычайным людскім свеце мінавала трыста гадоў. Песня расказвае аб незвычайных яго прыгодах і непаразуменнях, калі ён, не ведаючы, што здарылася, спрабаваў знайсці стары свой свет. Нагадвае гэта сучасныя фантастычна-навуковыя аповесці на тэму эйнштайнаўскай трансфармацыі часу і падарожжа ў часе. Іншая песня грабаркаўскай ночы — гэта вельмі сумная гісторыя салдата, які падчас вайны адзінока памірае ў пустым полі, у чужой краіне, здалёк ад родных і знаёмых. Потым прысутныя спяваюць песню аб патопе, аб нашэсці татараў на Пачаеў і аб іншых быліцах і небыліцах. І так праходзіць ноч.

А раніцаю на Грабарцы бы на ўрачыстай ярмарцы. Народу гвалтоўна пабольшалася ў дзесяць, а мо ў дваццаць разоў. Загудзелі аўтамашыны і матацыклы, адкрыліся гандлёвыя будкі, самаходы з півам ды ўсялякай усячынай. Модныя дзяўчаты і прыстойныя юнакі, гандляры і ашуканцы, жабракі і розныя прайдзісветы змяшаліся з натоўпам багамольцаў, і святочны гул, гоман і смех перамяшаўся з адгалоскамі багаслужэнняў.

Чаго, аднак, шукае народ у штогадовых паломніцтвах на Грабарку. Пытаю не пра вясёлую разгульную моладзь, якая шукае прыгод у лясным гушчары жнівеньскай ночы і не пра розных гандляроў і махляроў, якіх мэты вядомыя. Пытаю не пра выпадковых гасцей прыехаўшых сюды паглядзець ды ўбачыць катосьці са знаёмых. Пытаю пра гэтых сапраўдных паломнікаў, змоклых, празяблых, паўзучых на каленях вакол царквы і спяваўшых усю ноч сумныя песні. Маліцца ж, кажуць, можна ўсюды і ўсюды аднолькава важна!

Адказ здавалася б просты: многія людзі, асабліва старэйшага пакалення і асабліва жанчыны вераць проста і даслоўна ў легенду Святой гары Грабаркі і з гэтай верай сюды прыходзяць. Гэта праўда. Ёсць аднак і другая праўда. Паломнікі ідуць сюды не толькі таму, што вераць у мясцовую легенду, але і па тое, каб пацвердзіць гэтую легенду, зрабіць з яе своеасаблівую рэальнасць. Хопіць, каб на Святую гару перасталі прыходзіць паломнікі, а загіне яе святасць, памяць аб старым цудзе і вера ў тое, каб нешта такое магло здарыцца. І веруючым праваслаўным было б тады дрэнна, вельмі дрэнна. Але пакуль што паломнікі ахвярна і заўзята не гледзячы на дождж, вецер і непагоду сваёй прысутнасцю пацвярджаюць святасць гары Грабаркі.

**У. Паўлючук**

# Весткі з Сакольшчыны

### У ДАЛІНЕ САКАЛДЫ

У ваколіцы вёсак Сакалда, Варонічы ды Лазні, што на граніцы Крынскай і Супраскай пушчаў, адбываецца рэгуляцыя лясной рэчкі Сакалда. Дзякуючы рэгуляцыі палепшыцца якасць сенажацяў у лугах надрэчных. Будзе магчымасць весці рацыянальную гаспадарку лугамі, адпаведна дбаць пра іх травастой.

Рэгуляцыя рэчкі будзе мець дабрадзейны ўплыў яшчэ і па той прычыне, што стане магчымым нармаванне ўзроўню вады ў Сакалдзе. Пры цяперашняй тэндэнцыі высыхання і зарастання рэчак хутка памяншаецца колькасць рыб.

### АСТРАЎСКАЯ ВУЛІЦА

Пабываўшы цяпер у Паўднёвым Востраве, што на Сакольшчыне, аж міла паглядзець на астраўскую вуліцу. Бруканне яе, праўда, яшчэ не закончана, але гэта ўсяго справа часу. Добрая вуліца прыхарошвае вёску так, як добрая падлога робіць прыгажэйшай хату. Шкада толькі, што ў Паўднёвым Востраве чамусьці занікае пекная традыцыя агародчыкаў з кветкамі пры вуліцы. Карысных традыцый не трэба забываць.

Гаворачы аб хараստве астраўской ваколіцы трэба ўспомніць пра дарогу ў Паўночнае Вострава. Гэту дарогу не раз ладзілі пры аказіі ўсялякіх «чынаў». Нарэшце стала дарога падобнай на дарогу, даволі гладкую, шырокую, без ямаў. Вельмі прыемна паглядзець на тое, як людзі дбаюць пра сябе, пра сваю ваколіцу. Як кажуць, пазнаюць пана па халяўках... а дбайную вёску па пекнай вуліцы і дарозе. Прыдалося б гэта Талькоўшчыне.

### СМУТНЫ БУДЫНАК

Колькі б разоў не заехаць у Шудзялава, што пры дарозе з Саколкі, заўсёды непрыемна ўражвае неахайнасць вакол сядзібы грамадскай рады. Будынак нічога сабе, зграбны, ды начальства, якое сядзіць у ім, не дае добрага прыкладу культуры вясковага быту. Няўжо так цяжка засадзіць нейкія кветкі, парабіць клумбы, жвіраваную дарожку — замест галапупнага бугра, дзярна і недагароджанага плоту. Смутнае ўсё тут. Хтосьці штосьці рабіў ды недаканчыў...

(ся)



 



**КУРГАН СЛАВЫ**

**За гады акупацыі фашысты знішчылі на Беларусі больш за 2 млн. 200 тыс. людзей. Але крывавы рэжым акупантаў не зламаў волі беларускага народа. Ён узняўся на непрымірымую партызанскую вайну. На акупіраванай тэрыторыі Беларусі гераічна змагаліся з ворагамі больш за 374 тысячы партызанаў. Больш за 70 тыс. патрыётаў дзейнічалі ў падпольных арганізацыях і групах. Апрача таго, на пастаянным баявым уліку ў атрадах і брыгадах было больш за 400 тысяч т.зв. скрытых партызанскіх рэзерваў. За тры гады акупацыі беларускія партызаны і падпольшчыкі знішчылі больш паўмільёна гітлераўцаў.**

**На Беларусі насыпана шмат курганаў славы, пастаўлены помнікі і абеліскі на ўшанаванне савецкіх воінаў і партызанаў, якія загінулі ў барацьбе з захопнікамі. На здымку, які мы нядаўна атрымалі з Мінска, вы бачыце мітынг працоўных Беларусі, які адбыўся ў 25-ую гадавіну вызвалення рэспублікі і быў прысвечаны адкрыццю Кургана Славы.**

Не так даўно ў друку з'явілася паведамленне аб тым, што радыёастраномамі зарэгістраваны загадкавыя касмічныя радыёсігналы. Гэтыя сігналы ідуць ад нейкай крыніцы, размешчанай за межамі нашай Сонечнай сістэмы, але, відаць, у межах нашай зорнай сістэмы Галактыкі.

## КАСМІЧНЫЯ БРАТЫ ПА РОЗУМУ

Па сутнасці, на нашых вачах нараджаецца новая навука. Яна не мае яшчэ афіцыйнай назвы, але ёй бясспрэчна прыйдзецца адыграць вельмі значную ролю ў развіцці чалавецтва. Гэта навука ўзнікла дзякуючы поспехам астрафізікі, радыёастраноміі, кібернетыкі, біялогіі, радыётэхнікі, электронікі, касманаўтыкі.

Зразумела, найбольш дзейным метадам пошуку іншапланетных цывілізацый былі б міжзоркавыя пералёты. Аднак гэта праблема надзвычай складаная і ва ўсякім выпадку з'яўляецца справай параўнаўча далёкай будучыні. Таму, натуральна, узнікае ідэя выкарыстаць для выяўлення разумных істот іншых касмічных светаў і ўстанаўлення з імі кантактаў радыёметады.

Можна меркаваць, што высокаразвітыя цывілізацыі імкнуцца ўстанавіць радыёкантакты з іншымі разумнымі насельнікамі Сусвету.

А гэта значыць, што да нас на Зямлю з касмічнай прасторы няспынна паступаюць штучныя радыёсігналы, якія нясуць багатую навуковую інфармацыю. Але, на жаль, мы да гэтага часу не навучыліся ўлоўліваць іх, не навучыліся расшыфроўваць.

## РАДЫЁСІГНАЛЫ, А МО і НЕ?

Але калі гэтыя цывілізацыі знаходзяцца на больш высокай ступені развіцця, чым зямное чалавецтва, то не выключана магчымасць, што ім вядомы носьбіты інфармацыі, якія прыгодны для ўстанаўлення міжпланетных сувязей, чым радыёхвалі.

Аб існаванні некаторых носьбітаў інфармацыі, якія маюць неэлектрамагнітную прыроду, мы ведаем. Гэта, напрыклад, гравітацыйныя хвалі і патокі асаблівых ядзерных часцінак — нейтрына. І тыя і другія маюць велізарную пранікальную здольнасць. Па сутнасці для іх няма перашкод: праз усю тоўшчу нашай планеты яны праходзяць гэтак жа свабодна, як праз пустую прастору. І тыя і другія, у прынцыпе, могуць пераносіць велізарны аб'ём інфармацыі. Але бяда ў тым, што цяпер мы яшчэ не маем прыёмнікаў такіх выпраменьванняў. Работа ў гэтай галіне толькі-толькі пачынаецца.




Акрамя таго, іншапланетныя цывілізацыі могуць выкарыстоўваць для сваіх перадач і якія-небудзь выпраменьванні, наогул яшчэ нам невядомыя.

І ўсё ж можна меркаваць, што такія сродкі перадачы інфармацыі могуць ужывацца толькі тады, калі сувязь паміж дзвюма цывілізацыямі ўжо ўстаноўлена. Больш верагодна, што для першых кантактаў разумныя істоты выкарыстоўваюць тыя выпраменьванні, якія могуць быць прыняты як мага большай колькасцю цывілізацый, што дасягнулі ўзроўню, які дае магчымасць уступаць у міжкасмічныя «перагаворы». А такі ўзровень якраз і вызначаецца дастатковым развіццём радыётэхнічных сродкаў.

## МІЖПЛАНЕТНЫЯ КАНТАКТЫ

Відаць, не будзе вялікім перабольшаннем сцвярджаць, што вырашэнне праблемы кантактаў з незямнымі цывілізацыямі мела б ніколькі не меншае значэнне для прагрэсу чалавецтва, чым, скажам, вырашэнне праблемы кіравання тэрмаядзернымі рэакцыямі. Нездарма пошукі іншых касмічных цывілізацый усё часцей і часцей называюць «праблемай веку».

У сваю чаргу і зямное чалавецтва ўжо мае дастаткова сродкаў, каб са свайго боку накіраваць у космас спецыяльныя радыёсігналы для ўстанаўлення кантактаў з іншымі цывілізацыямі і такім чынам заявіць аб сваім існаванні. Пры сучасным стане радыёфізікі такія сігналы могуць пераадольваць адлегласць парадку некалькіх соцень светавых гадоў. Гэта азначае, што ў зоне іх дасягнення ўжо знаходзіцца каля паўмільёна зорак.

## ЦІ НАСТАЎ ЧАС?

Цяпер у нашым распараджэнні няма дакладных даных ні наконт самога існавання іншапланетных цывілізацый, ні наконт узроўню іх развіцця, ні наконт таго, ці ажыццяўляюцца наогул міжкасмічныя радыёперадачы.

У сувязі з гэтым паўстае пытанне — ці ёсць сэнс ужо цяпер удзяляць увагу праблеме пошуку сігналаў іншапланетных цывілізацый? Ці не будзе гэта марнай тратай часу?

Па-першае, праблема пошуку іншапланетных цывілізацый, як і іншыя кардынальныя задачы, якія ўзнікаюць перад чалавецтвам, не проста прыдумана людзьмі, яна заканамерна ўзнікла на пэўным этапе развіцця навукі і тэхнікі. Чалавецтва не выбірае сабе задач, якія яму прыходзіцца вырашаць, яны ставяцца самім ходам развіцця прыродазнаўства, прагрэсам зямной цывілізацыі.. І калі такая праблема ўзнікла, чалавецтва не можа ўхіліцца ад яе вырашэння.

**В. Камароў,**
**правадзейны член Усесаюзнага астранома-геадэзічнага таварыства АН СССР.**




## ВІКТОРЫЯ

Пахмурны восеньскі дзень. Нізка плывуць над зямлёю шэрыя хмары. Халодны вецер зрывае з дрэў апошнія лісты. Прыспешваючы крок, ідуць па разбураным горадзе дзве жанчыны. Іх гоніць не толькі чалавечы боль. У Вікторыі даручэнне падпольшчыкаў: апазнаць, каго замучылі фашысты.

Задыхаючыся, жанчыны падымаюцца ад электрастанцыі да сквера, што ля тэатра імя Янкі Купалы. Падыходзяць да цэнтральнай алеі. Там, на ліхтарных слупах, гойдаюцца на ветры мёртвыя целы. Хаця б вытрываць, не заплакаць! Яны ведаюць, што за кожным тут цікуюць гестапаўскія шпікі. Людзі ідуць няспешна, панура. Павольна крочаць і сёстры.

— Трымайся, Марыйка, трымайся! — просіць Вікторыя. — Глядзі! Гэта яна, Вольга Шчарбацэвіч!

А сын Вольгі, Уладлен, хлопчык-падлетак, быў павешаны ў гэты ж дзень на дражджавым заводзе «Чырвоная зара».

На адной з шыбеніц матлялася цела чалавека ў шэрым касцюме.

— Гэта ён... Гэта ён, мой начальнік... — ціха вымавіла Віця.

**Марыя Фёдараўна** і сёння не ведае, хто ён быў, той Віцін начальнік, што гэта быў за чалавек. Вікторыя далёка не ўсё расказвала сястры — так патрабавалі законы канспірацыі. Мы таксама не ўсё ведаем. Магчыма, калісьці раскрыецца і гэтая таямніца. Вядома толькі, што гэта быў адзін з мінскіх падпольшчыкаў, савецкі патрыёт, які не скарыўся перад ворагам.

— Віцечка, а за што? За што гэтую жанчыну, гэтых людзей павесілі? — ідучы назад, спыталася Марыя.

Вікторыя не адказала, хоць ведала: Вольга Шчарбацэвіч, сакратар партыйнай арганізацыі інфекцыйнай бальніцы, хавала ў сябе раненых ваеннапалонных. Ведала, што Вольга здабывала ім і дакументы, і зброю, і фотаматэрыялы для фотакартак на новыя пашпарты. Тыя людзі, якіх выратавала Вольга і якія засталіся жыць, пагадавалі сваіх дзяцей, прычакалі ўнукаў, — і цяпер, пэўна, не ведаюць, хто была іхняя вызваліцелька, не ведаюць імя адважнай мінчанкі, якая ахвяравала дзеля іх сваім жыццём і жыццём сына...

...Віця не прымала воінскай або партызанскай прысягі перад строем. Але вось тут, на гэтым скверы, яна паклялася сама сабе і памяці загінуўшых змагацца з ворагам не на жыццё, а на смерць. Паклялася працягваць справу, пачатую Вольгай Шчарбацэвіч.

У 2-ую Савецкую бальніцу, дзе працавала Вікторыя Рубец, везлі і везлі раненых. Суткамі не выходзілі з бальніцы ўрачы, сёстры і санітаркі. А як толькі ранены крыху ачуньваў, немцы забіралі яго ў лагер. У Мінску і ваколіцах — у Драздах, Масюкоўшчыне і іншых месцах — было шмат такіх лагераў, дзе ад холаду і голаду, ад хвароб і непасільнай працы, ад жудасных здзекаў паміралі тысячы ваеннапалонных. І Вікторыя пачала прыводзіць да сябе дамоў тых байцоў і камандзіраў, якія маглі хадзіць. Тут іх даглядала яе сястра — Марыя Фёдараўна Калашнікава, жанчына чулая і спагадлівая. Яна выбівалася з сіл, каб накарміць змарнелых, знясіленых людзей, схаваць іх ад нядобрага вока.

Вікторыя прабіралася ў лагеры, перадавала цывільную вопратку і зброю, праз сваіх сувязных перапраўляла людзей у лясы. Якой рызыкі і вынаходлівасці ўсё гэта патрабавала! Колькі чалавек вывезла з лагераў ваеннапалонных Вікторыя Рубец, маладая, прыгожая цемнавалосая жанчына? Кажуць, што каля сотні. Кажуць сведкі, што засталіся жывыя.

* * *

...Часць, у якой служыў палітрук Бачароў, разбілі немцы. Разам з невялікай групай яму ўдалося прабрацца ў горад. На рагу Інтэрнацыянальнай і плошчы Свабоды кінулася ў вочы нямецкая аб'ява: усе былыя ваеннаслужачыя павінны з'явіцца ў лагер, што ў Драздах...

Памог выпадак. Бадзяючыся па горадзе, Бачароў зайшоў у невялічкі драўляны домік, папрасіў напіцца. Стары падаў конаўку і стаў углядацца ў твар незнаёмага.

— Гляджу я на цябе, хлопец, і думаю: у Дразды табе дарога.

— Туды не спяшаюся, яшчэ паспею, — адказаў Васіль Міхайлавіч.

Слова за слова, разгаварыліся, закурылі. Гаспадар сказаў, між іншым, што яго сын уладкаваўся ў нямецкую пякарню.

— Хочаш? — запытаў стары. — Скажу, каб і табе памог.

І Бачароў стаў пекарам. Атледзеўшыся, ён з дапамогай яшчэ аднаго акружэнца змайстраваў радыёпрыёмнік і прынёс на кватэру. Так было больш надзейна: за сцяной жыла сям'я паліцая, і сюды наўрад ці хто палез бы з вобыскам.

Часам да гаспадыні Бачарова заходзіла маладая жанчына. Пазнаёміліся. Гэта была Вікторыя. Яна пачала заходзіць часцей і забірала перапісаныя Бачаровым зводкі Савецкага Інфармбюро. Перадавала іх надзейным таварышам, пераказвала змест некаторым раненым.

А тым часам Чырвоная Армія з цяжкімі баямі пакідала горад за горадам. Акупанты трубілі аб хуткай перамозе, назначалі дні ўступлення ў Маскву. Акупацыйны рэжым рабіўся ўсё больш жорсткі і строгі. Масавым знішчэннем патрыётаў гітлераўцы хацелі запалохаць савецкіх людзей, пасеяць боязь у іх сэрцах, паралізаваць супраціўленне. Але гэты іхні разлік не спраўдзіўся.

Запалонены, але не скораны горад жыў і змагаўся. На яго вуліцах усё часцей паяўляліся лістоўкі, што заклікалі да бязлітаснай барацьбы з ворагам. Падпольшчыкі прылаўчыліся расклей-

# ТРЫБУНА чытачоў

## МОЛАДЗЬ У СПР І ЗСП

У гэтым навучальным 1969/70 годзе закончыўся ўжо набор вучняў у гайнаўскія СПР-ы і ЗСР-ы.

Тры СПР-ы прынялі 78 вучняў і тры ЗСР — 152 вучні. Ахвотных вучыцца ў такога тыпу школах было куды больш. Напрыклад, у ЗСР у асадзе Нараўка прыехала здаваць уступныя экзамены 190 вучняў з Гайнаўскага і іншых паветаў. Месц было 80. 55 вучняў атрымала закватараванне ў інтэрнаце. Нараўская ЗСР мае ўжо сваіх першых абсальвентаў — 18 асоб, якія падаліся вучыцца далей у тэхнікумы або ў прафесіянальныя стажы. Нараўская ЗСР рыхтуе вучняў у галіне агароднiцка-сельскагаспадарчай.

Вучні вядуць аграбіялагічныя палеткі, вырошчваюць агародніну, займаюцца гадоўляй цялушак.

Школа мае поўны склад адпаведна падрыхтаванай кадры, якой кіруе дырэктар мгр Казімір Амельянчык.

Калі яшчэ вернемся да спраў набору вучняў у сельскагаспадарчыя школы, то неабходна дадаць, што ўсё недастатковай з'яўляецца прапагаванне тых школ спулдзельчасцю і ЗМВ. А час ужо на гэта, каб вызваліць усе сілы ў тым напрамку. Справа забеспячэння поўнага набору ў сельскагаспадарчыя школы — гэта важная справа.

**Янка Цялушэцкі**

## НА МАШЫНЫ

18 жніўня г.г. адбыўся сход членаў сельскагаспадарчага гуртка ў Патоцы, Беластоцкага павета. На гэтым сходзе пастаноўлена пераказаць фонд гаспадарчага развіцця ў суме каля 500000 зл. для сельскагаспадарчага гуртка ў Тапалянах. Дакупіцца за гэтыя грошы трактары з поўнымі камплектамі, якія будуць абслугоўваць Патоку.

Здаўна адчуваецца ў гэтых вёсках недахоп у абслузе гаспадароў, які будзе ліквідаваны пасля пакупкі ўспомненых машын.

**Мікола Краўчук**
**Патока**

## З КАНЦЭРТАМ У ЛАСІНЦЫ

24 жніўня г.г. у клуба-кавярні «Руху» ў Ласінцы (Гайнаўскі павет) выступіў з канцэртам мастацкі гуртак з вёскі Арэшкава. Выступленне самадзейнікаў усім спадабалася.

Пасля канцэрта адбыліся танцы, якія працягнуліся да світання. На вечарыну сабралася многа моладзі з усіх вёсак Ласінскай грамады.

**Янка Цялушэцкі**

## КАМАСАЦЫЯ РАСПАЧАТА

Сяляне вёскі Чэхі Арлянскія зямлю і лугі свае маюць яшчэ ў цераспалосіцы. Ведаем, як цяжка гаспадарыць на ёй, ведаем, што гаспадарка такая складаецца з некалькіх дзесяткаў кавалкаў зямлі, дзе цяжка, а нават немагчыма ўвесці механізацыю.

Пасля вялікіх намаганняў жыхароў гэтай вёскі нядаўна пачаліся тут работы над камасацыяй. Работы праўдападобна будуць працягвацца аж да вясны будучага года.

**М. Панфілюк**




**Дарагое Сэрцайка!**

Маю брата, які мае намер жаніцца з Кацяй (з іншай вёскі). Каця прыгожая дзяўчына. Я цяпер у арміі, але калі быў у водпуску, тады Міця з Кацяй былі ў бацькоў. Мне яна так спадабалася, што я пачаў за ёю хадзіць крок у крок. Гэта ўбачыў мой брат і пачаў мяне ўпікаць. Але Каця не пярэчыла, нават цалавалася са мною. Я ёй таксама, відаць, спадабаўся. Мо я б так і не рабіў, але два гады таму назад Міця адбіў мне нарачоную. Не ведаю толькі, чаму яны не пажаніліся. Хачу цяпер зрабіць яму так, як ён мне. Тым больш, што мне Каця спадабалася. Нядаўна ізноў яны прыехалі да нас, і я быў таксама дома. Я ізноў пачаў паступаць так, як раней, але Каця змянілася ўвогуле да мяне. Не хоча са мною гаварыць (а тады казала, што выйшла б за мяне замуж). Што рабіць, як паступаць з Кацяй, каб вярнуць мінулае.

**Алёша**
**з Кашаліна**

Алёша! У большасці выпадкаў мінулае не вяртаецца, а тым больш у тваім выпадку ніколі не павінна вярнуцца. Ты паступаеш брыдка. Таксама робіш крыўду і Каці. Відаць яна ўжо зразумела, таму іменна змянілася ў адносінах да цябе. Цяпер яна правільна паступае. Выбрала брата, а не цябе, тады і павінна пазбягаць твае дакучлівасці. Забудзь пра Кацю. Дзяўчат многа. Знойдзеш такую, якую сапраўды пакахаеш, а не з помсты, як у выпадку брата і Каці.

**Сэрцайка**

## ПРАЦАВІТАСЦЬ ДАЕ ПЛЁН

Вёска Елянка (Гайнаўскі павет) невялічкая і расталожана каля самага лесу. Здавалася, вёска глухая, забітая дошкамі. Аднак не так. Перш за ўсё кідаецца ў вочы тое, што тут вялікі рух на вуліцы, а гэта таму, што праходзіць шаша Гайнаўка — Кляшчэлі.

Народ тут працавіты, хаця зямля пясчаная і неўраджайная. Сяляне яе маюць багата, па некалькі дзесяткаў гектараў. Лугоў і сенажацяў таксама маюць дастаткова многа і найбольш ва ўрочышчы «Балота».

Але гэта ўжо перспектыва і жыхары Елянкі трымаюць яе ў руках: за апошнія гады, калі «Балота» было меліяравана, таксама жывёлагадоўля тут павысілася, і жыхары цяпер багаты на малако. А малако — гэта грошы.

Даўжэйшы час існуе ў вёсцы малочны пункт у прыватным памяшканні, і тут кожную раніцу чарга здаваць малако.

Існуе ў вёсцы таксама пажарніцкая каманда, якую ўзначальвае грам. Іван Данілюк. Пажарнікі, трэба сказаць, дружныя і ахвярныя, і не адзін раз прымалі ўдзел у гашэнні пажараў.

Бяда толькі ў тым, што не было рамізы і ўсе пажарніцкія прылады, як мотапомпа, вужы трэба было хаваць у прыватных будынках.

Але вось цяпер пачаліся работы пры будове мураванага будынка — малачарні з рамізай. Многа працы было зроблена грамадска жыхарамі вёскі. Зруб ужо зроблены, засталося яшчэ пакрыць дах і закончыць сёе-тое ў сярэдзіне і звонку.

Многа ініцыятывы пры будове і яе заснаванні ўнеслі мясцовы солтыс Іван Баравік і начальнік пажарніцкай каманды Іван Данілюк.

**М. Панфілюк**



Вёска Баб'я гара. Фота Я. Цялушэцкі

## ВЁСКА РЭПІСКА...

...налічвае каля 45 гаспадароў. Тут знаходзіцца чатырохкласная школа, малачарня і крама. Большасць моладзі вучыцца, а многа ўжо закончыла школы і працуе. Так, напрыклад, вышэйшую адукацыю закончыла 3 асобы: Іван Зенюк, які працуе ў Беластоку сакратаром Галоўнага праўлення БГКТ, Вера Глінская — ў Глівіцах і Уладзімір Паўлоўскі — асістэнт Вышэйшай педагагічнай школы ў Гданьску. Сярэднюю адукацыю атрымала 12 асоб, а трохгадовыя прафесіянальныя школы закончыла 8 асоб. Варта таксама дадаць, што яшчэ звыш 10 асоб вучыцца ў сярэдніх і вышэйшых школах. Маленькая вёска мае 5 тэлевізараў. Гэта сведчыць аб узросце культуры і аб лепшым сённяшнім дні. Адна бяда, што ў Рэпіскі не прыязджае кіно. А сапраўды патрэбнае. Жыхары вёскі просяць, каб хаця два разы ў месяц высвятляліся тут фільмы.

**М. Анін**



На рынку ў Гайнаўцы. Фота Цаф — Сянько

вацьіх на самых відных месцах — на вітрынах магазінаў, на ўцалелых дамах, нават на нямецкіх установах. У ваколіцах Мінска ствараліся партызанскія атрады.

У сталовай бальніцы, дзе працавала Вікторыя, харчаваліся па талонах. А чым накарміць тых, хто хаваўся ад немцаў? Яна глядзела на паперкі з пячаткамі і думала: «А што, каб іх зрабіць самім?» На кватэры Марыі Фёдараўны жыў мастак Іван Харытонавіч Казлоў. Ён зразумеў Віцю з паўслова. Талоны атрымаліся як сапраўдныя. Магчыма, гэта была першая рэпетыцыя напярэдадні вельмі важных і небяспечных спраў...

У першыя дні акупацыі тых раненых, што папраўляліся, можна яшчэ было пераапрануць і выпусціць за вароты бальніцы. Але неўзабаве пачаліся аблавы. Гітлераўцы патрабавалі, каб на дамах вывешваліся спісы жыхароў, і жорстка распраўляліся, калі, крый божа, знаходзілі непрапісанага. Цяпер вельмі патрэбны былі пашпарты, аўсвайсы.

Падпольшчыкі накіроўвалі ў нямецкія ўстановы сваіх верных людзей, праз іх здабывалі чыстыя бланкі нямецкіх аўсвайсаў, узоры пячатак і подпісаў. Але дакументаў не хапала. Вікторыя збірала пашпарты памёршых у бальніцы і прыносіла Казлову, а той з жаночага пашпарта рабіў мужчынскі, падрабляў подпісы. І ўсё з такім майстэрствам, што не маглі прычапіцца не толькі немцы, але нават іхнія прыслужнікі, паліцаі.

У снежні 1941 года Вікторыі ўдалося пераправіць Бачарова ў атрад палкоўніка Нічыпаровіча. На развітанне Бачароў моцна паціснуў маленькую руку Вікторыі. А яна ўслед яму кінула: «Да пабачэння!»

Пабачыліся хутка, праз месяц. У адным з баёў Бачарова цяжка паранілі. Урача ў атрадзе не было. Павезлі Бачарова ў горад. Палажыць у бальніцу не адважыліся, бо немцы пільна сачылі за кожным хворым, у каго былі агнястрэльныя раны. Позна ўначы прывезлі да Вікторыі, на Камароўскую 55. На шчасце, яна была дома. Хутка апрацавала рану і сказала: «Пайду заўтра параюся з прафесарам». Так упершыню Бачароў пачуў прозвішча — Клумаў.

Тыдні праз тры раненаму крыху палепшала. Трымаць яго тут, на Камароўскай, было рызыкоўна. Вікторыя знайшла больш спакойнае месца, у доме на вуліцы Горкага, у санітаркі Жэні Кульбаковай, якая жыла там з маленькай дачушкай. У кішэні Бачарова ляжаў пашпарт, сфабрыкаваны Іванам Казловым.

З кожным днём у горад паступала ўсё больш і больш раненых немцаў. Пабітыя ваякі занялі ўсе бальніцы і лазарэты. Толькі ў 1-ай бальніцы, што па Ленінскай вуліцы, па-ранейшаму лячылі гарадское насельніцтва. У лютым 1942 года сюды перайшла на працу Вікторыя.

Вікторыя была цесна звязана з Клумавым. Праз яе падпольшчыкі здабывалі медыкаменты і перавязачны матэрыял. Энергічная, дзейная, яна бясстрашна выконвала самыя рызыкоўныя заданні падпольшчыкаў. Ёй памагала медсястра Марыя Жлоба. Тая самая Марыйка, якая ў першыя дні вайны везла раненых на кані і з якой пачыналі мы наш расказ пра людзей у белых халатах.

**Працяг будзе**

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„On nie chciał zabijać" (radziecki), 16—17. „Sprawdzono min nie ma" (jugosł.), 18—19. „Kapryśne lato" (czeski), 20—21.

**Нараўка**

„Tabliczka marzenia" (polski), 17—21.

**Нарва**

„Kierunek Berlin" (polski), 17—21.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Дубічы Царкоўныя**

„Wycieczka w nieznane" (polski), 17—21.

**Боцькі**

„Milcząca gwiazda" (polski), 17—21.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Za frontem" (radz.), 16—17. „Biały niedźwiedź" (polski), 18 — 19. „273 dni poniżej zera" (polski), 20—21.

**Міхалова**

„Popioły" (polski), 16—18. „Ostatnie dni" (polski), 19—21.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Tylko jedno życie" (radz.), 16—17. „Dzika Elżbieta" (czeski), 18—19. „Maskarada szpiegów" (angl.), 20—21.

**Янаў**

„Wiem kim jesteś" (polski), 20—21.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Czas przeszły" (polski), 16—17. „Aby kwitło życie" (polski), 18—19. „Człowiek z M-3" (polski), 20—21.

**Мельнік**

„Popioły" (polski), „Ostatnie dni" (polski), 20—21.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**

„Świat grozy" (polski), 20—21.



Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 5861

